## К.І.Шаплыка:

# "Няхай Прэзідэнт навядзе парадак, а хлеб мы і самі вырасцім"

**Кузьма Іванавіч — старэйшы кіраўнік калектыўнай гаспадаркі не толькі на Любаншчыне, а, бадай, і ў Беларусі. Сёлета споўніцца 50 гадоў, як Герой Сацыялістычнай Працы К.І.Шаплыка ўзначальвае калгас "Чырвоная змена", аб добрых справах якога, мабыць, чулі ва ўсіх кутках рэспублікі. Рукамі, воляй, розумам такіх людзей аднаўлялася разбураная краіна, станавіліся на ногі калгасы, прадпрыемствы. Праз сэрца, нервы Кузьмы Іванавіча праходзілі самыя розныя рэформы, эксперыменты ў сельскай гаспадарцы. Таму было цікава пачуць, што ж думае ветэран аб першых кроках першага Прэзідэнта Беларусі.**

***— Кузьма Іванавіч, не сакрэт, што ў ходзе перадвыбарнай кампаніі большасць кіраўнікоў калгасаў настройвалі людзей галасаваць не за Лукашэнку, а за іншага кандыдата.***

— Было такое. Але цяпер, калі за Лукашэнку прагаласавала 80 працэнтаў выбаршчыкаў, мінулыя баталіі трэба забыць. Ёсць Прэзідэнт — неабходна выконваць волю яго каманды, працаваць закасаўшы рукавы. Бо нават самыя гарачыя дыскусіі не дапамогуць нам вылезці з эканамічнай ямы.

***— Што ў дзеяннях Прэзідэнта Вы падтрымліваеце?***

— Павышэнне цэн на хлеб, малочныя прадукты. Бо да гэтага былі сапраўды смешныя цэны, якія дазвалялі торбамі, вагонамі перапраўляць нашу прадукцыю за мяжу, зусім спусташаючы прылаўкі магазінаў. А дастаецца яна нам вялікім потам... Добра, што да кіраўніцтва рэспублікай ён прыцягвае маладых, энергічных спецыялістаў — яны думаюць па-сучаснаму, лепш бачаць перспектывы, шляхі вырашэння нашых праблем. І абсалютна згодзен з тым, што неабходна значна скараціць штаты чыноўнікаў на ўсіх узроўнях. Мне вельмі часта даводзіцца звяртацца ў розныя інстанцыі. Кабінеты забіты работнікамі, вырашыць жа пытанне, бывае, няма з кім, адзін да другога пасылаюць. І ўсіх жа нам, вяскоўцам, карміць трэба.

***— Прэзідэнт заклікаў нас пацярпець яшчэ 6—8 месяцаў. Пасля чаго сітуацыя быццам бы павінна палепшыцца. Вы верыце гэтаму?***

— У прынцыпе, за такі час можна больш-менш стабілізаваць эканоміку. Але пры адной умове: трэба навесці парадак у грамадстве. Каб чалавек думаў аб тым, як нешта вырабіць, а не ўкрасці. Сёння як? Штоноч на нашы палі прыходзяць "госці", капаюць дармавую калгасную бульбу. Хто для сябе, хто на продаж. Лепшую забіраюць, дробная гіне. Вялікія плошчы ўжо зладзеі спустошылі. І ніякай управы на іх няма.

***— Вартаўнікоў ставіць не спрабавалі?***

— Якія вартаўнікі? Нават на фермах, не тое што ў полі, яны нярэдка не могуць са зладзеямі справіцца. Бо тыя ходзяць групамі, бандамі. Змагацца са злачыннасцю ў першую чаргу павінны дзяржаўныя органы. А вось тут з боку Адміністрацыі Прэзідэнта я пакуль што нейкіх рашучых дзеянняў не бачу. Як і па навядзенню парадку ў сістэме камерцыі. Тысячы дужых дзяцюкоў толькі і займаюцца "купі-прадай". Ал чаго тавараў у нашых магазінах не прыбаўляецца. А хто ж прадукцыю выраблядь будзе — нашы вясковыя пенсіянеры?

***— Вядома, што пакуль не стане на ногі вёска, ні аб якім развіцці эканомікі гаварыць нельга. Што б вы парылі Прэзідэнту ў першую чаргу зрабіць у гэтым кірунку?***

— Галоўнае — навесці парадак з падаткамі. Ведаеце, колькі відаў падаткаў калгас сёння плаціць? Ажно 16! Самых розных. Вось выплацілі мы 500 мільёнаў заработку. З іх сто мільёнаў аддалі ў выглядзе падаткаў. Куды ж гэта варта? Далей. Трэба дэталёва разабрацца ў цэнах. Дзе яшчэ можна ўбачыць, каб за літр бензіну ці салярkі вяскоўцы больш як паўвядра малака аддавалі? Хіба ж пры такіх суадносінах можна на ногі падняцца? А кошт угнаенняў, запчастак? Страх! Нехта нядрэнна нажываецца на бедных сялянах.

***— "Чырвоная змена" заўсёды славілася і прадукцыйнасцю працы, і высокімі даходамі...***

— Сапраўды, у нас пастаянна былі свае грошы. Уласнымі сіламі пабудавалі сотні кватэр, фермы, Палац культуры, дзіцячыя сады і многае іншае. А цяпер — бяром крэдыты, каб заработак людзям выплаціць... Або вазьміце прыватызацыю. Гаспадар выкупляе дом, пабудаваны калгасам. А грошы за яго забірае райфо. Дзе ж справядлівасць? Ну ладна, калі дом за калгаснікам застаецца. Нямала ж іх пераходзяць ва ўласнасць людзей, якія да зямлі нашай ніякага дачынення не маюць.

***— Галоўны даход сялян, вядома, не ад жылля, а ад поля, ферм.***

— Няма парадку, дык і ад зямлі высокай аддачы не чакай. На які ўраджай можна разлічваць; калі не хапае сродкаў, каб як след пасевы апрацаваць? Вось мы сёлета і сабралі з гектара па 27 цэнтнераў зерня — для нас гэта вельмі нізкі паказчык. Раней садзілі бульбу на 600—700 гектарах. Рэзка зменшыўся попыт, таму пад бульбу занялі ўсяго 400 гектараў. Але і яны спачатку вымаклі, потым высахлі. Так што запас клубняў у нас будзе вельмі бедны. А раней да 20 тысяч тон накопвалі. Чым карміць жывёлу зімой? Сена, сіласу, сенажу нядрэнна назапасілі. Але ж гэтага недастаткова для таго, каб высокія надоі, прывагі атрымліваць. Скараціць пагалоўе? Дык у параўнанні з мінулым мы і так на 250 галоў менш маем буйной рагатай жывёлы, на некалькі тысяч зменшылася свіное пагалоўе.

***— Можа, кіраўніцтву рэспублікі на фермераў стаўку рабіць, як раяць некаторыя? Меншая гаспадарка — меншыя страты, большая аддача.***

— Калгасам, вядома, патрэбна рэканструкцыя — у адным і тым жа выглядзе дзесяцігоддзямі існаваць яны не могуць. Жыццё рухаецца наперад... Але на адных фермераў разлічваць сёння нельга ніяк. "Чырвоная змена" разам з вяскоўцамі за дзень рэалізоўвае да 20 тон малака. А фермеры? Я добра ведаю аднаго з іх. Пакуль у нашым і суседнім калгасах было сена, іншыя кармы, то і ён трымаў цялушку. Потым збыў. Дзе ж ён возьме таго ж гною, каб ураджай добры сабраць? Магчыма, фермеры і змогуць накарміць народ, але здарыцца гэта не хутка. І не іх адных тут віна — без сучаснай матэрыяльнай, тэхнічнай базы на высокую аддачу зямлі разлічваць нельга.

***— Дык якое, Кузьма Іванавіч, галоўнае пажаданне вы б выказалі першаму Прэзідэнту Беларусі?***

— Раней наша рэспубліка атрымлівала за год у разліку на чалавека каля ста кілаграмаў мяса, тры цэнтнеры малака. Прыблізна столькі, колькі і ў Амерыцы. Нашы людзі ўмелі і не развучыліся працаваць. Так што няхай Прэзідэнт навядзе парадак у рэспубліцы, наладзіць сувязі з Расіяй, Украінай, іншымі суседзямі. А хлеб, бульбу мы самі вырасцім. Не так важна, рукамі калгаснікаў ці аднаасобнікаў..

*Гутарыў Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

■ Точка зрения

## РАДИ ЧЕГО ЖИЛИ?

Было время, когда мы, читая прессу, удивлялись: как это сотни тысяч «лишних людей» в Америке вынуждены вставать в очередь за похлебкой? Тогда нам говорили: это — трагедия, капитализм лишает человека права на труд.

Наша жизнь шла своим чередом. Мы были уверены: не останемся без работы. Дети пойдут в школу, в техникум, в институт. Когда подойдет очередь — получим квартиру. Планировали поездки в отпуск, покупали билеты в театры, подарки друзьям. Теперь же денег, заработанных честным трудом, не хватает на хлеб насущный.

Нынешнее время ознаменовалось развалом экономики, обнищанием народа, упадком нации и культуры, безработицей, братоубийственными войнами, беспредельным ростом преступности. Спрашивается: ради чего все это?

Сегодня нам говорят: «Семьдесят с лишним лет не ту систему строили». Неужто и впрямь кто-то думает, что были мы совсем глупыми — только и работали, надрываясь, «во имя коммунизма»? Работали, чтобы жилось хорошо, кое-что успели сделать. Ради чего все невзгоды терпели? Ради жизни! Войну, разруху, голод, холод — все на своих плечах вынесли. И тогда ни у кого помощи не просили.

А сейчас? Кругом провозгласили независимость. Новоявленные партии насмехаются, критикуют прошлое. Работать бы получше надо, а не искать, кто виноват, кто прав, в этом хаосе.

Мне, прожившему пятьдесят лет, стыдно и обидно. Помощи просим! У кого? Мы, победители, до чего дошли? Или — нас довели? Только и разговоров: «к рынку идем», «рыночные цены», «рыночные экономические отношения», «экономическое пространство». Дорогие мои соотечественники, необходимо всем четко уяснить, что рыночной экономики у нас не будет ни через 2 года, ни через 5 лет. Рынок — это система, в которой созданы условия для цивилизованного взаимодействия, производителей, потребителей и посредников между ними.

Восемь лет шагаем «новой» дорогой. «Свободу» почувствовали: работать бросили, в «бизнес» кинулись. Миллионеры появились. Этого вы хотели? Велика ли доблесть — оплевывать все, что было? Перечеркивать прошлое? Но ведь без прошлого нет будущего. Хотелось бы, чтобы эту истину усвоило нынешнее поколение. И поняло, что только самим, своими руками можно его построить.

*А.БОЛОТЕВИЧ. г.Слуцк.*



*З добрым настроем прыходзяць на працу загадчыца магазіна "Кулінарыя", што ў гарадскім пасёлку Узда, Яўгенія Мікалаеўна Барысевіч і прадавец Валянціна Пятроўна Козіч. За гады работы яны дасканала авалодалі прафесіяй, на высокім узроўні абслугоўваюць сваіх пакупнікоў, пастаянна вывучаюць іх попыт.*

*НА ЗДЫМКУ: **Я.М.Барысевіч (злева) і В.П.Козіч.***

*Фота Міхаіла БУЛАТА.*

## МІНСКАЯ ХРОНІКА

### ПРАПАНУЕ "ЭРЫДАН"

Па вуліцы Кірава, 1 выдавецка-паліграфічная кампанія «Эрыдан» адкрыла кніжны магазін для дзяцей. Тут прымаюцца заказы на літаратуру, якая выдаецца не толькі ў Беларусі, але і ў краінах СНД.

### ЦЫРК АДКРЫВАЕ СЕЗОН

Вялікім маляўнічым спектаклем пры перапоўненай зале адкрыў новы сезон Мінскі цырк. У прэм"еры прынялі ўдзел вядучыя майстры самых розных цыркавых жанраў.

### ПАШПАРТЫ — ШКОЛЬНІКАМ

Ва ўрачыстай абстаноўцы групе навучэнцаў мінскай сярэдняй школы № 37 уручаны беларускія пашпарты. Дакументы новага ўзору з рук міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь генерал-маёра ўнутранай службы Юрыя Захаранкі атрымалі выдатнікі вучобы, самыя актыўныя вучні старэйшых класаў.

### ПАМЯЦІ ВЫДАТНАГА СПЕВАКА

Лепшыя гады свайго жыцця Зіновій Бабій аддаў Беларускаму акадэмічнаму тэатру оперы і балета. Памяці выдатнага спевака быў прысвечаны вялікі канцэрт, у якім выступілі беларускія артысты, госць з Кіева Анатоль Салаўяненка, брат Бабія Уладзімір і сын Віктар.

### НОВЫ ШЭФ МІЛІЦЫІ

Начальнікам галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкома зацверджаны палкоўнік Барыс Казіміравіч Тарлецкі, які да гэтага працаваў першым намеснікам начальніка ГУУС Мінгарвыканкома.

*Падрыхтаваў Павел ЖУРБА.*

■ Прырода-жартаўніца

## ГРЫБНАЯ ЎДАЧА

Амаль кожны год грыбны сезон пачынаецца, калі яго нават самыя заўзятыя лесавікі не чакаюць. Сёлета з вясны лілі дажджы, вільгаці хапала, але цяпла не было. "Вось бы прыгрэла сонейка, — уздыхалі аматары ранніх лісічак,— і грыбніца б кранулася".

Яна і сапраўды кранулася, калі ў пачатку лета рэзка пацяплела. Той-сёй нават паспеў пакаштаваць супу з баравікоў- каласавікоў, крамяных падбярозавікаў, не рэагуючых на радыяцыю лісічак. Але пачалася засуха, грыбы надоўга зніклі. Мінуў ліпень, стаяла сярэдзіна жніўня, а ў лесе — ні сыраежкі, ні лісічкі, ні падасінавіка. Нават мухамораў і іншых "воўчых" грыбоў не было.

І вось у адзін жнівеньскі дзень хтосьці, шукаючы брусніцы пад вёскай Моладзі, у маладняку знайшоў некалькі баравічкоў.

— Грыбы пайшлі, — перадавалі ў хуткім часе людзі адзін аднаму ў аўтобусах, у чэргах ля магазінаў.

З недаверам, без кошыкаў і вёдраў, а толькі з цэлафанавымі мяшэчкамі рушылі і гараджане, і вяскоўцы правяраць навіну. Не адзін кіламетр давялося выхадзіць ім баравымі мясцінамі, а грыбоў нідзе не было. Калі ўжо пачалі смяяцца з дасціпнага жарту аб баравіках, хтосьці выпадкова заглянуў у малады ельнічак — і ажно аслупянеў ад нечаканасці: там, куды ні кінь вокам, тырчэлі шапачкі маладзенькіх баравічкоў.

Вестка аб пачатку "ціхага" палявання распаўсюдзілася з хуткасцю маланкі. Не спатрэбіліся ніякія загады ні міністра лясной гаспадаркі, ні таго, хто кіруе прыроднымі рэсурсамі і аховай навакольнага асяроддзя.

Сёння дзесяткі тысяч (без перабольшання) людзей на веласіпедах, матацыклах, машынах, а многія і пешшу накіроўваюцца ў лагойскія лясы і вяртаюцца не з парожнімі кошыкамі, вёдрамі. Баравікі, падасінавікі, падбярозавікі, лісічкі нясуць і вязуць з бароў і гаёў не толькі дамоў, але і на рынак, якім цяпер стала асфальтаваная магістраль Мінск — Віцебск. Пры ўездзе ў г.п. Плешчаніцы, ля Слагавішча, Казыроў, паблізу ад аўтазаправачнай станцыі, на скрыжаванні аб"язной дарогі і той, што вядзе на Янушкавічы, у многіх іншых месцах ідзе бойкі гандаль грыбамі. За вядро лісічак яшчэ нядаўна давалі ажно 500 тысяч недэнамінаваных "зайчыкаў".

Кожную раніцу, ідучы на работу, бачу, як з аўтобусаў, што прыбываюць з Мінска, выходзяць людзі з рукзакамі. Яны спяшаюцца да раённага вузла сувязі, каб на якім-небудзь спадарожным транспарце дабрацца да Гасцілавічаў, Алешнікаў, Юркавічаў, Кроквы. А там — лясная прастора, дзе ў патаемных месцах схаваліся баравікі, лісічкі...

Гляджу на гэтых людзей і па-добраму зайздрошчу ім, бо і самога цягне ў лес, на пошукі грыбной удачы.

*Іван СІЛЯЎКА. Лагойскі раён.*







*НА ЗДЫМКАХ: 1. Урач-стаматолаг **Л.Ф.Полахава**. 2. У работнікаў зубатэхнічнай лабараторыі **А.А.Кундро, У.І. Мацвеенка, С.П.Тарасевіч, В.І.Радыёнавай** звычайны працоўны дзень. 3. Артапедычнае аддзяленне: урачы-стаматолагі **Я.А.Агароднікаў, Г.Ю.Панасенкава** і галоўны ўрач паліклінікі **Я.А.Васількові**ч праводзяць невялікую кансультацыю.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Фотарэпартаж

## БЕРАЖЫЦЕ ЗУБЫ ЗМАЛКУ

Непрыемная гэта штука — зубны боль. Той, хто хоць раз яго адчуў, мяркую, пагодзіцца і скажа: «Лепш не ўспамінаць». Так-то яно так. Але калі ўжо прыцісне, — без урача-спецыяліста не абысціся.

Сёння побач з такімі «моднымі» хваробамі, як інфаркт, стрэс, СНІД — прагрэсіруюць і зубныя захворванні. Галоўны ўрач абласной стаматалагічнай паліклінікі Я.А.Васількові назваў лічбу — дзевяноста. Столькі працэнтаў насельніцтва вобласці хварэе «на зубы». І, што асабліва сумна, вельмі многа сярод гэтай колькасці дзяцей, як школьнага, так і дашкольнага ўзросту. «У чым жа тут прычына?» — пацікавіўся я ў Якава Аляксандравіча.

— Прычына, як правіла, бывае не адна, а некалькі, — зазначыў ён. — Няякаснае харчаванне, адсутнасць у арганізме неабходных мікраэлементаў. Відаць, уплываюць і вынікі чарнобыльскай аварыі. Але галоўная — большасць нашых пацыентаў ігнаруюць элементарныя правілы гігіены. Да гэтага неабходна прывучыць дзяцей змалку: у дзіцячым садзіку, школе. Не трэба злоўжываць цукеркамі. Менавіта ў ласуноў часцей за ўсё і здараецца карыес.

Парады слушныя і не такія ўжо складаныя. Але прытрымлівацца іх іншы раз не хапае ні цярпення, ні жадання. І тады — вымушаны візіт да ўрача-стаматолага. Успомніўшы пра бормашыну, пацікавіўся, як тут наконт абязбольвальнага.

— Абыходзімся без «крыкаіну», — пажартаваў Якаў Аляксандравіч. — У нас нядрэннае абсталяванне. Плюс вопытныя спецыялісты, якія, перш чым пачаць лячэбную працэдуру, стараюцца падрыхтаваць пацыента псіхалагічна.

У абласной стаматалагічнай паліклініцы калектыў, сапраўды, выдатны. Тут не адзін ужо год працуюць урачы Я.А.Палякова, Л.Ф.Чарапавіцкая, В.М.Шостак, З.В.Аніфер, Т.П.Тумеля, Л.Ф.Полахава.

З адным з іх — Людмілай Феліксаўнай Полахавай мне ўдалося пагутарыць. Яна ў некаторым сэнсе стала ўрачом-стаматолагам выпадкова. Марыла быць педыятрам. Але пры паступленні ў Мінскі мединстытут яе ў прыёмнай камісіі загітавалі ісці на стаматолага.

— І я не шкадую, што так атрымалася, — сказала Людміла Феліксаўна. — Гэта маё прызванне. Наша работа ў чымсьці нагадвае работу ювеліра: патрэбна такая ж дакладнасць, упэўненасць.

І яшчэ адзін штрых хацелася б дадаць да сказанага: абласную стаматалагічную паліклініку ў якасці практыкантаў наведваюць студэнты мединстытута і медвучылішчаў. Тут ёсць чаму і ў каго павучыцца.

Акрамя стаматалагічнага аддзялення ў паліклініцы дзейнічае артапедычнае, зубатэхнічная лабараторыя. Не адну сотню людзей абслугоўваюць тут штогод. І гэта вельмі добра, калі можна атрымаць неабходную дапамогу ў вопытных спецыялістаў. Але, успомніўшы вядомае выслоўе — хваробу лягчэй папярэдзіць, чым вылечыць, — хацелася б зноў нагадаць словы Якава Аляксандравіча: зубы трэба навучыцца берагчы змалку.

*Мікалай ЖУЧКО.*

Крымінал

## "ВАША МАЁМАСЦЬ АРЫШТАВАНА"

### — такое не раз чулі несумленныя бізнесмены з Салігоршчыны, Любаншчыны, якія настойліва ўхіляюцца ад падаткаў

Па вопыту работы Салігорскі міжраённы аддзел падатковых расследаванняў, вядома, не можа параўнацца з заходняй падатковай паліцыяй. І ўсё ж яго работнікі, як кажуць, дарэмна хлеб не ядуць. За паўгоддзе яны праверылі 207 аб"ектаў — 17 дзяржаўных прадпрыемстваў, арганізацый, 130 — прыватных прадпрымальнікаў. Выяўлена 190 розных парушальнікаў падатковага заканадаўства, узбуджана пяць крымінальных спраў, спагнана 12 мільёнаў рублёў штрафаў. А ўсяго дзевяць яго супрацоўнікаў вярнулі ў бюджэт амаль паўмільярда рублёў, якія махляры спрабавалі прысвоіць.

— Як спраўляецеся з такім аб"ёмам работ? — пытаю ў кіраўніка аддзела Л.В.Барташэвіча.

— Касцяк аддзела — былыя супрацоўнікі міліцыі, — адказвае Леанард Віктаравіч. — "Звычкі" несумленных бізнесменаў яны ведаюць добра, дзейнічаюць прафесійна. Таму большасць выкрытых махляроў імкнуцца адразу разлічыцца з дзяржавай.

— А калі не?

— У нашым арсенале дастаткова сродкаў, каб прымусіць паважаць закон. Злосных парушальнікаў мы штрафуем, падатковая інспекцыя мае права закрыць рахунак сквапнага бізнесмена ў банку, арыштаваць маёмасць і нават канфіскаваць яе.

І гэта не проста пагроза. Напрыклад, малое прадпрыемства "Зубр" пасля праверкі павінна было дадаткова пералічыць у бюджэт 99,9 мільёна рублёў. А вярнула ўсяго 19 мільёнаў. І дзяржаўная падатковая інспекцыя закрыла яго рахунак у банку, арыштаваны два "МАЗы", маёмасць офіса. Выкрыты махінацыі і ў міжгаспадарчым прадпрыемстве "Ласунак", якім кіруе М.В.Бараноўскі. Яго прадстаўнік рэалізоўваў у Карэліі тавар, не афармлены дакументальна, атрымліваў наяўныя грошы, ад чаго ў бюджэт недаплачана 137 мільёнаў рублёў.

Аб падрабязнасцях гаварыць рана, бо ўзбуджана крымінальная справа, вядзецца следства. А пакуль што закрыты рахунак "Ласунка" ў банку, арыштавана яго маёмасць.

Здараецца, што дзеянні аддзела аспрэчваюцца ў судзе. Напрыклад, таварыства з абмежаванай адказнасцю "Мазінс" яшчэ ў пачатку года павінна было даплаціць у бюджэт 19 мільёнаў рублёў. Але замест гэтага падало ў суд. Праўда, акрамя дадатковай платы ў выглядзе судовай пошліны нічога "Мазінс" не выйграў. Патрэбна не толькі выплаціць доўг з улікам інфляцыі, а і кругленькую суму пені.

Але не толькі гэтыя факты сведчаць аб высокім прафесіяналізме работнікаў аддзела. Яны не сякуць з-за пляча.

— Мы заўсёды аналізуем: парушэнне падатковага заканадаўства зроблена выпадкова ці наўмысна, — гаворыць Л.В.Барташэвіч. — У першым выпадку можам проста папярэдзіць вінаватага, вядома, пры ўмове, што ён чэсна разлічыцца з доўгам. А калі недаплата складзе больш за 40 мінімальных зарплат, то маем права адразу прыцягваць махляра да крымінальнай адказнасці. Яшчэ мінулай вясной да такой меры можна было звяртацца толькі пасля паўторнага парушэння. Цяпер санкцыі ўзмацняюцца. Што дае нам магчымасць дзейнічаць больш аператыўна. Так, вырашаецца пытанне аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці кіраўніцтва малога прадпрыемства "Роніс", якому прад"яўлены санкцыі на дадатковае пералічэнне ў бюджэт 32,8 мільёна рублёў.

Дык, можа, каб не трапляць у сеткі ахоўнікаў падаткаў, увогуле не трэба арганізоўваць малое прадпрыемства, кааператыў? Гандлюй сабе паціху, не афармляючы дакументаў. Работнікі аддзела, аказваецца, знаходзяць і такіх хітруноў. Напрыклад, нехта Л. Цішком прадаваў аўтамабілі, прыгнаныя з Германіі. Устанавілі, што перакупшчык рэалізаваў 11 аўтамашын, паклаўшы ўвесь "навар" у кішэню. Падлічылі: ён павінен выплаціць у бюджэт 42 мільёны рублёў. Нягожа! Цяпер ім займаюцца следчыя органы...

Карацей, з гэтым аддзелам трэба жыць мірна. Для чаго патрэбна — толькі паважаць і выконваць законы.

*Уладзімір ПОЛІН.*

